

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на ½ г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 19 (120) | 4 сьнежня 1931 г. | № 19 (120)

## ЗЬМЕСТ



---

## Пастановы Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

### 89. Часовыя правілы па адводу зямельных вучасткаў і па забудоўцы ў гарадох і мястэчках, у якіх яшчэ не праводзіцца перапляніроўка.

**І. Уводная частка.**

1. Паводле дырэктывы Ўраду БССР усе гарады БССР падлягаюць перапляніроўцы да 1935 году. Але неабходна ўлічыць, што на працягу гэтага часу ў гарадох будзе праводзіцца рознае будаўніцтва і гэта значыць, і адвод зямельных вучасткаў.

Гэтыя часовыя правілы маюць на мэце папярэдзіць бязсыстэмны адвод вучасткаў і хаатычнае будаўніцтва, якое ня чыніла-б перашкод пры перапляніроўцы.

2. Часовыя правілы дзейнічаюць да часу, пакуль будзе складзена схэма пляніроўкі.

У час работ па перапляніроўцы данага гораду ўсе пытаньні па адводу вучасткаў неабходна вырашаць сумесна з органам, які праводзіць перапляніроўку гораду.



3. Кіраваньне гэтай справай ускладаецца на органы камунальнай гаспадаркі.

### II. Вырашэньне напрамку пашырэньня гораду.

4. Пры высьвятленьні пытаньняў аб напрамках агульнага пашырэньня гораду, трэба грунтавацца на наступных падставах, якім павінна адпавядаць тэрыторыя, уключаемая ў гарадзкую мяжу:

а) выгадная сувязь з сумежнымі раёнамі (наяўнасьць шляхоў зносін—рака, чыгунка, шоша і г. д.);

б) арганічная сувязь з існуючай тэрыторыяй гораду (рэльеф мясцовасьці, адсутнасьць равоў і г. д.);

в) тапаграфічная адпаведнасьць мясцовасьці (раўніннасьць мясцовасьці, моцнасьць глебы, адсутнасьць балот і г. д.);

г) адсутнасьць на данай тэрыторыі карысных выкапняў;

д) захоўваньне правільнага абрысу гораду.

### III. Вырашэньне пытаньня схэматычнага раёнаваньня гораду.

5. У мэтах урэгуляваньня забудоўкі гораду трэба вызначыць асноўныя раёны гораду: адміністрацыйны, прамысловы, жыльлёвы, складзкі.

6. Вызначэньне асноўных раёнаў гораду павінна адпавядаць наступным умовам:

*Адміністрацыйны раён*:

а) разьмяшчэньне раёну на раўнамернай адлегласьці ад населеных частак гораду;

б) выгаднасьць і дастатковасьць унутранай вулічнай сувязі з рознымі раёнамі гораду.

*Прамысловы раён:*

а) разьмяшчэньне каля шляхоў зносін—чыгункі, ракі, шошы і г. д.;

б) дастатковая ізаляванасьць ад жылых раёнаў;

в) выгадная сувязь з жылымі раёнамі;

г) магчымасьць пашырэньня тэрыторыі у далейшым;

д) разьмяшчэньне ўніз па берагу ракі для адводу сьцякаючых вод.

Увага. 1. У адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі могуць быць вызначаны адзін, два, тры прамысловых раёны, але разьмяшчэньне іх павінна адпавядаць паказаным вышэй умовам. Вызначэньне большай колькасьці прамысловых раёнаў зьяўляецца нямэтазгодным.

2. Прамысловыя раёны трэба групаваць па характару прамысловасьці, разьмяжоўваючы цяжкую і лёгкую індустрыю.

3. Пры вызначэньні прамысловых раёнаў і жыльлёвых раёнаў, навае будаўніцтва трэба праводзіць у адпаведнасьці з раёнамі, не дапушчаючы прамысловага будаўніцтва ў жыльлёвых раёнах і наадварот.

*Жыльлёвы раён*:

а) разьмяшчэньне ў выгаднай сувязі як з прамысловымі, так і з адміністрацыйнымі раёнамі;

б) магчымасьць пашырэньня тэрыторыі ў далейшым.



Увага. У адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі жыльлёвых раёнаў можа быць адзін, два ці тры, але абавязкова, каб яны захоўвалі выгадную сувязь з месцамі працы: прамысловымі прадпрыемствамі, адміністрацыйнымі і транспартнымі ўстановамі і г. д.

*Складзкі раён*:

а) разьмяшчэньне каля шляхоў зносін і месц выгрузкі;

б) блізасьць і выгаднасьць сувязі з прамысловымі раёнамі;

в) пажарная бясьпека.

Увага. Колькасьць складзкіх раёнаў можа быць павялічана ў адпаведнасьці з колькасьцю прамысловых раёнаў.

**IV. Вызначэньне каменных і драўляных кварталаў.**

7. Патрэбна вызначыць кварталы каменнай і драўлянай забудоўкі, прычым у далейшым не дапушчаць у каменных кварталах будаўніцтва драўляных дамоў.

**V. Вызначэньне магістраляў і ўпарадкаваньне вуліц.**

8. У мэтах упарадкаваньня ўнутраных гарадзкіх шляхоў як у існуючай частцы, так і ў новых кварталах трэба вызначыць наступнае:

а) галоўныя магістралі;

б) вуліцы і завулкі II-й і III-й катэгорыі і транзітныя вуліцы;

в) нампрамкі вуліц;

г) чырвоныя лініі вуліц і завулкаў;

д) вуліцы і завулкі, падлягаючыя ў далейшым зьнішчэньню.

*Галоўныя магістралі (вуліцы I клясы)*:

Вызначэньне галоўных магістраляў павінна выходзіць з наступнага:

а) як галоўных вуліц гораду альбо буйнага гарадзкога раёну;

б) як сувязі асобных раёнаў гораду паміж сабою;

в) як сувязі чыгуначных станцый і прыстаняў з адміністрацыйнымі, прамысловымі, жыльлёвымі і складзкімі раёнамі.

*Вуліцы II і III клясы*:

Вуліцы II і III клясы маюць унутрыраённае значэньне.

У кожным раёне, у залежнасьці ад значнасьці і напрамку руху, трэба вызначыць некалькі вуліц II клясы, а астатнія лічыць вуліцамі III клясы.

*Транзітныя магістралі*:

Пры наяўнасьці значнага транзітнага руху трэба прадугледзець вызначэньне падсобных транзітных магістраляў.

У залежнасьці ад мясцовых умоў транзітныя магістралі могуць мець наступнае значэньне:

а) разгрузкі галоўных гарадзкіх вуліц (у гэтым выпадку пад транзітныя магістралі вызначаюцца вуліцы, паралельныя галоўным);

б) для зьменшэньня напружанасьці таварнага руху праз цэнтр гораду (у гэтым выпадку пад транзітныя вуліцы мэтазгодна вызначыць вуліцы, якія зьвязвалі-б прамысловыя, складзкія раёны, станцыі чыгунак і прыстаняў, мінуючы цэнтр гораду.

*Напрамак вуліц:*

Абавязкова вызначыць напрамкі вуліц, прадугледзеўшы іх магчымае спрамленьне.

*Чырвоныя лініі вуліц і завулкаў:*

У залежнасьці ад клясы вуліц, патрэбна вызначыць яе будучую шырыню. Будучая (праектная) шырыня вуліц і завулкаў адзначаецца сталай мяжой (чырвонай лініяй), пад якой праводзіцца новая забудоўка. Шырыня вуліц, у залежнасьці ад клясы, вызначаецца, прыкладна, у наступных мерах:

а) галоўныя магістралі (I кляса):

| | | |
|---|---|---|
| шырыня ўсёй вуліцы . . . . . | 35,0—50,0 | мэтраў |
| „ кожнага тратуару . . | 4,5— 5,5 | „ |
| „ праезднай часткі . . . | 24,0—27,0 | „ |

б) II кляса:

| | | |
|---|---|---|
| шырыня ўсёй вуліцы . . . . . | 22,0—26,0 | „ |
| „ кожнага тратуару . . | 3,0— 4,0 | „ |
| „ праезднай часткі . . . | 19,0—22,0 | „ |

в) III кляса:

| | | |
|---|---|---|
| шырыня ўсёй вуліцы . . . . . | 14,0—18,0 | „ |
| „ кожнага тратуару . . | 2,5— 4,0 | „ |
| „ праезднай часткі . . . | 7,0—10,0 | „ |

*Вуліцы] і завулкі, падлягаючыя ў далейшым зьнішчэньню:*

Асобныя вуліцы або завулкі, альбо часткі іх, якія не адпавядаюць свайму прызначэньню і перашкаджаюць плянавай забудоўцы, могуць быць прызначаны ў далейшым да зьнішчэньня.

У зьвязку з гэтым новае будаўніцтва па гэтых вуліцах і завулках не дапушчаць.

**VI. Разьмяшчэньне асобных будынкаў унутры гарадзкіх раёнаў.**

9. Адміністрацыйныя ўстановы разьмяшчаюцца:

а) новыя пабудовы для ўстаноў агульна-гарадзкога значэньня належыць разьмяшчаць у цэнтральным адміністрацыйным раёне;

б) будынкі для падсобных адміністрацыйных устаноў (аддзяленьні міліцыі, нарсуды і г. д.), пры дастатковай буйнасьці гораду, разьмяшчаюцца ў цэнтрах жылых раёнаў на галоўных вуліцах раёну.

10. Прамысловыя прадпрыемствы разьмяшчаюцца:

Разьмяшчэньне прамысловых прадпрыемстваў павінна адпавядаць умовам, вызначаным для прамысловых гарадзкіх раёнаў. Адносна разьмяшчэньня асобных прамысловых прадпрыемстваў трэба ўлічваць наступныя ўмовы:

а) выгадная сувязь з магістральнымі вуліцамі;

б) прадугледжаньне тэрыторыі для пашырэньня прадпрыемства;

в) ізаляванасьць шкодных для здароўя прадпрыемстваў ад жылых раёнаў.

г) пажарная бясьпека.

11. Грамадзка-абслугоўваючыя прадпрыемствы і ўстановы разьмяшчаюцца:

Разьмяшчэньне будынкаў грамадзка-абслугоўваючых прадпрыемстваў і ўстаноў (каператывы, сталоўкі, аптэкі, амбуляторыі, лазьніпральні і г. д.) павінна мяркавацца на падставе колькасьці насельніцтва, якое патрабуе абслугоўваньня.

На падставе гэтага, разьмяшчэньне гэтых будынкаў раўнамерна па жыльлёвых раёнах забудоўкі вытвараць мэтазгодна:

а) каператывы, сталоўкі, аптэкі—па вуліцах I і II клясы,

б) амбуляторыі, лазьні і пральні—па вуліцах II клясы.

12. Тэатры і кіно разьмяшчаюцца:

а) буйныя цагляныя тэатры і кіно агульна-гарадзкога характару больш мэтазгодна разьмяшчаць на пляцох. Калі гэтай магчымасьці няма, то будаваць іх можна на шырокіх вуліцах, бульварах і ўзьбярэжжах;

б) калі тэатр альбо кіно будуецца не на пляцы, то трэба прадугледзець одступ уваходу ў будынак ад лініі тратуару ня менш як на 5 мэтр.;

в) тэатры і кіно, прызначаныя абслугоўваць асобны раён гораду, разьмяшчаюцца ў цэнтрах гэтых раёнаў.

13. Клюбы разьмяшчаюцца:

а) клюбы агульна-гарадзкога характару разьмяшчаюцца так, як тэатры;

б) клюбы, маючыя спэцыяльна-прафэсійнае прызначэньне альбо прымацаваныя да асобных прадпрыемстваў, разьмяшчаюцца ў адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі, як правіла, у выгаднай сувязі як з прадпрыемствамі, так і з бліжэйшымі жыльлёвымі раёнамі;

в) каля клюбаў трэба прадуглядзець вольныя пляцы для скарыстаньня пад пляцоўкі для сходаў і гульняў, сады, сквэры і г. д.

14. Школы разьмяшчаюцца:

а) школы разьмяшчаюцца раўнамерна па асобных раёнах гораду для поўнага ахопу школьнаю сецьцю ўсяго насельніцтва;

б) будынкі школ разьмяшчаюцца па вуліцах, па якіх няма буйнага руху, але недалёка ад галоўных магістраляў;

в) пры школах неабходна прадугледжваць вольныя пляцы для спортпляцовак і г. д.

15. Больніцы разьмяшчаюцца пры захаваньні наступных умоў:

а) для пабудовы больніц павінна быць выбрана здаровая мясцовасьць, водаль ад гарадзкога шуму і пылу, але не надта далёка ад жылых раёнаў;

б) неабходна ўлічваць пануючыя вятры з тым, каб яны былі ня з боку прамысловага раёну альбо чыгуначнай станцыі;

в) пры больніцах трэба прадугледзець дастатковыя пляцы для разьбіўкі садоў.

16. Гасьцініцы разьмяшчаюцца пры захаваньні наступных умоў:

Гасьцініцы мэтазгодна разьмяшчаць каля вакзалаў, у выгаднай сувязі іх з адміністрацыйнымі раёнамі.

17. Жылыя дамы разьмяшчаюцца:

а) забудоўку іх належыць праводзіць па кварталах, разглядваючы квартал (альбо некалькі кварталаў) як адзіны жыльлёвы комплекс;

б) для гэтай мэты праводзіцца папярэдняя пляніроўка кварталу, улічваючы разьмяшчэньне як жылых будынкаў, таксама і будынкаў падсобных і гаспадарчых, праходаў паміж дамоў, гаспадарчых двароў, квартальных садоў, палісаднікаў, газонаў, цьвятнікоў, пляцовак і г. д.;

в) асноўная форма жылых будынкаў—простакутнік. У асобных выпадках можа быць дапушчана злучэньне некалькіх простакутнікаў;

г) даўжыня будынкаў:

найбольшая даўжыня жылых будынкаў:

| | |
|---|---|
| цагляных . . . . . . . . | 100 мэтраў |
| драўляных атынкаваных знадворку: | |
| 1-шы паверх . . . . . . . | 60 „ |
| 2-гі „ . . . . . . . . | 55 „ |
| драўляных неатынкавных: | |
| 1-шы паверх . . . . . . . | 50 „ |
| 2-гі „ . . . . . . . . | 35 „ |

д) разрывы паміж дамамі, якія не прылягаюць непасрэдна адзін да другога, павінны быць:

паміж цаглянымі ня менш 5 мэтраў,

паміж цаглянымі і драўлянымі атынкаванымі знадворку— 7 мэтраў,

„ „ „ неатынкаванымі . . . . —10 „

„ драўлянымі атынкаванымі знадворку . . . . . . . —10 „

„ „ неатынкаванымі . . . . . . . . . . . —12 „

### VII. Зялёныя насаджэньні.

18. Неабходна прадугледзець максымальнае разьвіцьцё зялёных насаджэньняў, але мэтазгодна ўвязваючы іх з агульнай пляніроўкай гораду, з пакварталынай пляніроўкай і будаўніцтвам.

19. У гэтым напрамку неабходна прадугледзець наступныя віды зялёных насаджэньняў:

а) грамадзкія паркі і сады,

б) гарадзкія скверы,

в) сады і скверы квартальныя і пры асобных грамадзкіх будынках,

г) дэкаратыўныя цьвятнікі і газоны,

д) лінейныя (вулічныя) насаджэньні.

е) абараняльныя насаджэньні.

20. Грамадзкія паркі і сады мяркуюцца двух тыпаў:

а) агульна-гарадзкі парк (парк культуры і адпачынку), месца для якога вызначаецца ў кожным горадзе асобна, пасьля дэталёвага вывучэньня і распрацоўкі гэтага пытаньня,

б) унутры-гарадзкія сады, якія разьмяшчаюцца раўнамерна па гораду ў напасрэднай сувязі з жыльлёвымі раёнамі.

21. Гарадзкія скверы разглядаюцца як сады меншай плошчы і разьмяшчаюцца ў раёнах жылых і адміністрацыйных.

22. Сады і скверы квартальныя і пры асобных грамадзкіх будынках належыць разглядваць як:

а) сады пры самых квартальных комплексах. Гэтыя сады праектуюцца, па магчымасьці, пры пляніроўцы кварталаў;

б) сады і сквэры пры грамадзкіх будынках: тэатрах, клюбах, буйных сталоўках, больніцах, школах, а таксама пры прамысловых прадпрыемствах. У кожным выпадку праектыроўка і разьбіўка саду, альбо сквэру вырашаецца з пункту погляду яго мэтазгоднасьці і архітэктурна-мастацкай сувязі з будынкамі і пляніроўкай прылягаючых кварталаў.

23. Дэкаратыўныя цьвятнікі і газоны мяркуюцца як мастацкае афармленьне невялікіх вольных пляцовак і могуць утварацца ва ўсіх магчымых выпадках, напрыклад:

а) перад адміністрацыйнымі, грамадзкімі, жыльлёвымі і іншымі будынкамі, калі дазваляе месца,

б) унутры жылых кварталаў,

в) на гарадзкіх пляцох і г. д.

24. Лінейныя (вулічныя) насаджэньні праектуюцца:

а) па вуліцах каля тратуараў,

б) на спэцыяльна-утвараемых бульварах і алеях,

в) калі маецца шэраг паралельных вуліц недастатковай шырыні, неабходна ў кожным раёне прадугледзець магчымасьць пашырэньня аднэй з вуліц для замены яе ў далейшым бульварам альбо алеяй.

25. Абараняльныя насаджэньні (дрэвы, кусты) праектуюцца ў наступных выпадках:

а) для разьмежаваньня прамысловых і жылых раёнаў,

б) для стварэньня зялёных зон паміж больніцамі і горадам,

в) ва ўсіх іншых выпадках, калі патрэбны абараняльныя зялёныя зоны.

### VIII. Заключная частка.

26. Органам камунальнай гаспадаркі трэба наглядаць за архітэктурна-мастацкім выглядам гораду.

На падставе гэтага, пытаньні як пляніроўкі, так і забудоўкі і зялёных насаджэньняў павінны вырашацца ў галіне ня толькі мэтазгоднасьці і эканамічнасьці, але і з пункту гледжаньня архітэктурна-мастацкай сувязі паміж сабою і з горадам цалкам.

Час. вык. аб. Народнага Камісара
Камунальнай Гаспадаркі БССР **Шкурдзе.**

Інжынэр-Архітэктар НККГ БССР **Швэдэр.**

3 сьнежня 1931 г.
№ 2—57.

## 89. Правілы па прыстасаваньню тыповых праектаў да жыльлёвага будаўніцтва па БССР на 1932 г.

Для рацыяналізацыі і патаненьня жыльлёвага будаўніцтва, Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі прапануе ўсё жыльлёвае будаўніцтва праводзіць па існуючых тыповых праектах. Мясцовым органам камунальнай гаспадаркі прасачыць за выкананьнем гэтага будуючымі і будаўнічымі арганізацыямі.

У выніку гэтага належыць прыняць да ведама і кіраваньня наступнае:

1. Усе жыльлёвае будаўніцтва па пляну 1932 г. праводзіцца па існуючых тыповых праектах. Дадатковае праектаваньне жылых будынкаў не дапушчаецца.

2. НККГ раіць да ўжываньня наступныя тыпы жылых будынкаў і ячэек:

а) для цагляных 2—4 паверхавых будынкаў тыпы №№ 23, 28 (б) і 31 (а);

б) для 2-хпаверхавых драўляных будынкаў—тыпы №№ 24 і 29.

Прапануемыя тыпы ўзяты з альбому № 3 „Жылыя дамы і пляніроўка" (проекты на 1931 г. Правительственной комиссии СНК СССР по отбору и изданию проектов гражданского строительства).

3. У асобных выпадках, калі з боку зацікаўленых ведамстваў маецца жаданьне ўжыць іншы тып жылога будынку, то абраны тып належыць узгодніць з НККГ.

4. Пры кожным тыповым праекце ёсьць каштарыс патрэбнай рабсілы і будматарыялаў з разьліку на адну сэкцыю.

5. У залежнасьці ад патрабаваньняў і месца забудоўкі праект дому складаецца праз злучэньне тыповых сэкцый як па даўжыні (плян паверху), таксама і па вышыні (паверхня).

Увага. Форма і найбольшая даўжыня аднаго будынку вызначана ў „Часовых правілах па адводу вучасткаў і забудоўкі" § 17, п. п. „г" і „д", выданых НККГ БССР.

6. Калі ў жылых дамох мяркуецца ўтварэньне розных установаў для грамадзкага абслугоўваньня, як: магазыны, сталоўкі, аптэкі і г. д., то іх належыць разьмяшчаць у 1-м паверсе, альбо, калі гэта дапушчальна, у паўсутарэньні. Кожнае такое памяшканьне павінна мець самастойны уваход з вуліцы, асобны ад уваходаў у жыльлёвую частку. Кубатура і плошча абслугоўваючых установаў зьяўляецца дадаткова́й да лічб, вызначаных для жыльлёвага будаўніцтва. Дадатковыя сродкі вылучаюцца зацікаўленымі ведамствамі.

7. Пры складаньні рабочых рысункаў і правядзеньні будаўніцтва трэба ажыцьцяўляць усе магчымасьці па палегчаньні канструкцый і тым самым па патаненьні будаўніцтва, якія прадугледжаны „Інструкцыяй па ўжываньню палегчаных канструкцый у жыльлёвым будаўніцтве", выданай НККГ БССР.

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Інжынэр-Архітэктар НККГ БССР **Швэдэр.**

20 лістапада 1931 г.
№ 1 - 2.

### 90. Прынцыпы і палажэньні па забудоўцы жылога кварталу.

1. **Жылы квартал** трэба разглядваць, як асобную сацыяньна-бытавую і гаспадарчую адзінку, у сыстэму якой уключаюцца ня толькі жылыя блокі, але і элемэнты абслугоўваньня: сталоўкі, яськлі, пральні і г. д.

Усе элемэнты жылога кварталу разьмяшчаюцца на вучастку так, каб былі забясьпечаны найлепшыя ўмовы для насельніцтва кварталу ў адносінах культурна-бытавога і санітарнага абслугоўваньня, а таксама ў адносіне функцыянальнай сувязі паміж асобнымі адзінкамі кварталу.

**2. Разьмер жылога кварталу** павінен быць ня больш як 500 мэтраў па вуліцы; пры разьмерах кварталу больш як 250 мэтраў трэба рабіць скразны папярэчны пешаходны праход шырынёю на менш як 8 мэтраў.

**3. Унутраныя праходы і праезды ў кожным блоку** павінны адпавядаць па сваіх разьмерах і пляніроўцы графіку ўнутранага руху і выгадна вырашаць пытаньне сувязі ўнутры кварталу.

Асноўная частка гэтых праездаў разьлічваецца як пажарныя праезды.

Праезды і праходы павінны складаць ня больш 15—20 проц. плошчы кварталу.

**4. Разьмяшчэньне будынкаў унутры кварталу** павінна адпавядаць наступным патрабаваньням:

а) жылыя блокі разьмяшчаюцца на вучастку па азначнай сыстэме. Як прасьцейшая сыстэма, можа быць паказана разьмяшчэньне дамоў паралельна адзін другому, тарцамі на вуліцу. У залежнасьці ад вучастку і іншых умоў пры разьмяшчэньні можа ўжывацца і іншая сыстэма разьмяшчэньня, але адпавядаючая патрабаваньням мэтазгоднасьці і кампактнасьці забудоўкі;

б) арыентыроўка па краінах сьвету залежыць ад унутранай пляніроўкі кватэр: калі пляніроўка кватэр аднабаковая (вокны аднае кватэры выходзяць на абодвы бакі дому), тады мэтазгодна разьмяшчаць будынкі так, каб большасьць жылых покояў выходзіла на паўдзень-захад, а кухні—на поўнач-усход (экватарыяльнае разьмяшчэньне). Калі пляніроўка кватэр двухбаковая (усе вокны аднае кватэры выходзяць на адзін бок), тады мэтазгодна разьмяшчаць будынак так, каб адзін бок яго выходзіў на ўсход, а другі бок на захад (мэрыдыянальнае разьмяшчэньне). Недапушчальным зьяўляецца разьмяшчэньне жылых пакояў на поўнач;

в) будынкі ні ў якім разе ня могуць выступаць за чырвоную лінію вуліц і праездаў;

г) разрывы (адлегласьць) паміж асобна-стаячымі будынкамі павінны быць ня менш высаты найбольшага з сумежных будынкаў. Разрывы паміж бакамі будынкаў, ня маючымі вокан, абумоўліваюцца пажарнымі і залежаць ад катэгорыі будынкаў (гл. „Часовыя правілы“, выданыя НККГ БССР);

д) забудаваньне двароў з усіх бакоў не дапушчаецца.

е) будынкі грамадзкага прызначэньня (у квартальным маштабе): ясьлі, сталоўкі, пральні, чырвоныя куткі і г. д., калі яны не аб'яднаны з жылымі блокамі, разьмяшчаюцца на вучастку з такім разьлікам адносна да жылых блокаў, каб была забясьпечана найлепшая сувязь і магчымасьць абслугоўваньня ўсяго насельніцтва кварталу;

ж) службова-гаспадарчыя пабудовы і будынкі з дрэнным пахам

альбо садзейнічаючыя распаўсюджваньню бруду (канюшні, кароўнікі, знадворныя прыбіральні, памыйніцы і г. д.), разьмяшчаюцца ад жылых будынкаў на адлегласьці, вызначаемай мясцовымі аддзеламі аховы здароўя.

5. **Шчыльнасьць забудоўкі** жылога кварталу дапушчаецца ад 10 да 30 проц.

Шчыльнасьць забудоўкі вызначаецца ў агульным праекце пляніроўкі населенага пункту і знаходзіцца ў залежнасьці ад раёну забудоўкі і зьяўляецца адносінай сумы плошчаў усіх будынкаў кварталу да агульнай плошчы ўсяго кварталу.

6. **Шчыльнасьць насельніцтва кварталу** вызначаецца ня звыш 300—400 чал. на гэктар.

7. **Зялёныя насаджэньні.** Пры агульнай пляніроўцы кварталу неабходна вызначыць плошчу пад зялёныя насаджэньні. Плошчы зялёных насаджэньняў залежаць ад велічыні кварталу і шчыльнасьці яго забудоўкі, але павінны быць ня менш 10 проц. ад плошы кварталу, вольнай ад забудоўкі.

Частка зялёных насаджэньняў павінна быць разьмешчана з бакоў унутры-квартальных праездаў і праходаў і дзіцячых пляцовак. Астатнюю частку іх належыць разьмяшчаць у відзе сквэраў і невялікіх садзікаў.

8. **Дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі.** Пры агульнай пляніроўцы кварталу трэба прадугледзець утварэньне дзіцячых пляцовак.

Пляцоўкі разьмяшчаюцца ізалявана ад унутры-квартальнага руху.

Разьмеры пляцовак разьлічваюцца ў залежнасьці ад колькасьці насельніцтва ў квартале, але ня менш 500 кв. мтр.

У буйных кварталах належыць прадугледзець утварэньне спортпляцовак, плошча якіх можа быць до 1000 кв. мтр.

9. **Умовы пасыўнай і актыўнай абароны.** Неабходна прадугледзець пры пляніроўцы кварталу ўтварэньне належных умоў для супроцьпаветравай і супроцьгазавай пасыўнай і актыўнай абароны, у адпаведнасьці з арганізацыяй гэтай справы па ўсяму раёну.

10. **Архітэктурна-мастацкае афармленьне.** Пры пляніроўцы і забудоўцы кварталу неабходна зьвярнуць найбольшую ўвагу на архітэктурна-мастацкае афармленьне як асобных будынкаў, таксама і кварталу ў цэлым і ў сувязі яго з агульнай пляніроўкай і забудоўкай гараду.

Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Інжынэр-Архітэктар НККГ БССР **Швэдэр.**

20 лістапада 1931 г.
№ 2-54.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 817—5350 экз.